Год V. Люты № 2 (49).

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."
ЯНКА КУПАЛА.



Centr. Biblioteka Mokslų Akademijos

ВІЛЬНЯ, 1933 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

ЗЬМЕСТ № 2:



## BIEŁARUSKAJA ABECEDA
### Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — A, a. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к. | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |


# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр.
„ на паўгода. . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . 2 зл.

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрэс Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 6 — 10

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

| Год V. | Вільня, Люты 1933 г. | № 2 (49). |
|---|---|---|

LMOKSLŲ AKADEMIJOS BIBLIOTEKA
13113

## Кастусь Каліноўскі і яго „Mužyckaja Praŭda“.

*(Да 70-лецьця беларускай прэсы).*

Сёлета мінае 70 гадоў ад польскага паўстаньня 1863 г. Паўстаньне гэта паявілася ў тым часе, калі ўжо пачыналася беларускае адраджэньне. Былі ўжо ў Беларусі паэты, якія пісалі беларускія вершы, былі вучоныя, якія працавалі над беларускай мінуўшчынай, былі людзі справядлівыя, што ўжо думалі аб палепшаньні цяжкога лёсу беларускага народу, што гібеў у няволі паншчыны, ды былі ўрэшце такія, што йшлі яшчэ далей і жадалі палітычнай і культурнай свабоды беларускаму народу і нават бароліся за гэту свабоду з аружжам у руках.

Да гэтых апошніх належыў і Кастусь Каліноўскі, выдатны ўчасьнік паўстаньня 1863 г. у нашым краю. У гэным часе беларускі народ цярпеў няволю ад двух сваіх ворагаў: ад расейскай царскай улады, якая тады ў нас панавала і лічыла нас маскалямі і ад польскіх паноў, якім народ наш рабіў паншчыну і якія яго лічылі сваім парабкам — нявольнікам. Узноў-жа сваім парадкам паляком агулам, асабліва паном, так-жа даставалася нямала ад расейскіх урадаў. Вось-жа палякі, прадусім, ведама, паны і паднялі паўстаньне проціў Расеі, маючы на мэце выгнаць Расейцаў як з Польшчы, так з Літвы, Беларусі і Украіны і з гэтых усіх зямель стварыць Польскую дзяржаву, як гэта было да канца XVIII в., да падзелу Польшчы.

Вось-жа з гэтай мэтай паны паднялі паўстаньне. Да яго далучыліся і такія мяйсцовыя народнікі, як К. Каліноўскі на землях беларускіх і кс. Ант. Мацкевіч на землях этнографічна літоўскіх. Яны думалі скарыстаць з паўстаньня для вызваленьня Беларусаў і Літоўцаў. Дзеля гэтага яны ўсімі сіламі заклікалі да паўстаньня беларускіх і літоўскіх сялян. У перамогу сваіх ідэалаў яны моцна верылі, бо іх падтрымлівала, як расейская, так і заходня-эўропэйская дэмократыя. Слаўныя расейскія народавольцы, Гэрцэн і Бакунін, будучы на эміграцыі ў Лёндыне, выдавалі там часо-

пісь „Колокол“, у якой праводзілі ідэю самаазначэньня народаў, а ў іх ліку і Беларусаў. Такія-ж, ведама, ідэі лунлалі і ў зах. Эўропе. Вось-жа дэмократыя як расейская, так і зах. эўропэйская, падтрымлівала польскае паўстаньне настолькі, наскольні яно імкнулася да самастойнасьці этнографічнай Польшчы, без Беларусі, Літвы і Украіны, жадаючы краіны гэтыя бачыць вольнымі самымі для сябе.

З Беларусаў трымаўся гэтых народавольскіх ідэалаў К. Каліноўскі. Родам ён з Ваўкавыскага пав., з Якужаўкі над Сьвіслачай. Сын дробнай каталіцкай шляхоцкай сям'і. З народавольскімі ідэаламі запазнаўся ён яшчэ як студэнт Пецярбурскага ўнівэрсытэту, які скончыў у 1860 г. з навуковым званьнем кандыдата права. У паўстаньні займаў ён выдатныя і адказныя становішчы: сьпярша быў камісарам Горадзеншчыны, пасьля адным з галоўных кіраўнікоў Літоўскага Выканаўчага К-ту і ўрэшце, пад канец 1863 г., калі паны ратуючы сябе самых і свае двары ад Мураўёўскага тэрору і разгрому, стаўся дыктатарам Беларусі, змагаючыся з няроўнай сілай расейскага войска за вольнасьць і зямлю беларускага народу. Пад канец студзеня 1864 г. К. Каліноўскі быў расейскімі жандармамі злоўлены і 10.(22)III. па загаду Мураўёва павешаны ў Вільні на пляцы Лукіскім. Сваей веры і любові да сярмяжнага народу не зьмяніў ён ніколі. Стоячы пад шыбеніцай, калі прачыталі, што вешаецца шляхціц Каліноўскі, ён крыкнуў: „няпраўда, у нас няма шляхты, у нас усе роўныя!!!“...

Дзеля парушаньня беларускага народу ў кірунку палітычнай і соцыяльнай волі, Каліноўскі выдаваў пабеларуску газэту і цэлы рад розных пісьмаў і адозваў. Для гэтай мэты меў ён тайную друкарню ў Беластоку. Газэту сваю ён назваў „Mužyckaja Praŭda“. Назова, як бачым, красамоўная. Яна выразна нам гавора, якія яе былі мэты. Дагэтуль ведама, што вышла „Mužyckaj Praŭdy“ сем нумароў. Быць можа, што некалі гдзесь акажацца і больш. Можна аглядаць гэту часопісь і ў Вільні: № № 3 і 5 у бібліотэцы ім. Врублеўскіх і № 7 у Дзярж. Архіве (былы Мураўёўскі) лікам аж дзесяць штук. «Mužyckaja Praŭda» друкавана лацінікай, чыстай беларускай мовай з асаблівасьцямі Горадзеншчыны. Як гэту часопісь, так і ўсе свае іншыя беларускія друкі Каліноўскі падпісваў мянюшкай Ясько Гаспадар з пад Вільні. Зьмест часопісі і іншых друкаў пасьвячаны заклiку Беларусаў да барацьбы з маскоўскім панаваньнем, а так жа за зямлю і вольнасьць. Падчас паўстаньня, згодна з вымогамі, — аб чым мы ўжо ўспаміналі, — дэмократаў народавольцаў усей Эўропы, палякі выдавалі розныя маніфэсты, у якіх абяцалі між іншым і нашаму народу зямлю і вольнасьць. Дзеля гэтага у беларускіх друках Каліноўскага спатыкаем думкі, што польская паўстанская справа, ёсьць разам

і справай беларускай. Аднак веры ў польскія харошыя словы, за якімі выразна крыліся захопніцкія і панскія пляны, Каліноўскі мусіць меў нямнога, калі ўсе надзеі аб вызваленьні беларускага народу клаў на сам народ, які толькі сам і мог-бы адстаяць для сябе і зямлю і волю, супольна, ведама, з Палякамі, ломячы маскоўскую няволю. Але ня сталася ані так, як хацелі Палякі, ані так, як хацеў Каліноўскі. Маскоўская мілітарная сіла ў іхнай-жа крыві затапіла іхныя пляны.

Але яшчэ пару слоў аб «Mužyckaj Praŭdzie». Яна зьяўляецца першай беларускай пэрыёдычнай часопісяй. Яна — казаў бы — матка ўсіх беларускіх газэт і журналаў, якія выйшлі ў сьвет ад 1863 г. і якія выходзяць сяньня. Ад гэтага часу сёлета мінула 70 гадоў. Сёлета такім чынам прыпадае 70-лецьце беларускай прэсы. Знача, і мы Беларусы маем чым пахваліцца. Адно толькі трэба належна пазнаць нашу мінуўшчыну. Моладзі нашай і агулам новаму нашаму пакаленьню ў гэтай справе прыпадае вялікае заданьне!...

*А. Сакалінскі.*

# Змагаймася з п‘янствам.

Благія прывычкі часта даводзяць да руіны. Аднэй з такіх прывычак ёсьць п‘янства—прывычка ўжываньня, а найчасьцей надужываньня сьпіртных напіткаў, як гарэлка, віно, піва і таму падобныя. Напіткі гэтыя маюць у сабе алькаголь, які зьяўляецца сапраўднай атрутай, ад каторай нават можна памерці. Паміма аднак гэтага, п‘янства распаўсюджана бадай па ўсім сьвеце, а таксама і ў нас на Беларусі. Зруйнавала яно і руйнуе далей шмат людзей. Бачачы гэта сьвятлейшыя адзінкі пастанавілі павясьці рашучую барацьбу за цьвярозасьць. Думка гэта хутка найшла падтрыманьне і пачала разрастацца. Сяньня яна ўжо вылілася ў арганізацыйныя формы. У розных краёх паўстаў цэлы рад арганізацыяў, якія за мэту сваей дзейнасьці паставілі барацьбу з п‘янствам. Арганізацыі гэтыя выдаюць адпаведныя кніжкі, газэты, ладзяць публічныя лекцыі, у якіх навукова даказваюць шкоднасьць п‘янства для здароўя, для жыцьця сямейнага, а так-жа і для жыцьця грамадзкага. Каб-жа праца гэта йшла больш інтэнсыўна, арганізацыі гэтыя пастанавілі пасьвяціць адзін тыдзень ў год, ад 2 да 9 лютага, падчас якога, у сваім змаганьні з п‘янствам, ідуць быццам у атаку, выганяючы проч страшнага ворага чалавецтва. У выніку гэтае барацьбы за цьвярозасьць, многія народы здабылі ўжо вельмі шмат дабра моральнага і матэр‘яльнага.

У нас, на жаль, у гэтай галіне бадай што нічога ня робіцца. Але ёсьць аднак надзея, што думка гэта ў хуткім

часе знойдзе падтрыманьне, бо ёсьць і ў нас людзі, якім залежыць ня дабрабыце нашага народу. Апошнім часам у гэтай справе забрала голас найстарэйшая беларуская газэта „Беларуская Крыніца,“ зьмяшчаючы ў № 8 с. г. вялікі артыкул п. н. „Клічам да цьвярозасьці». Вось-жа аўтор гэтага артыкулу піша гэтак:

„...У нас беларусаў апошнім часам п'янства прымае проста страшныя разьмеры. Вёска наша, ня гледзячы на так цяжкія часы, запіваецца, як ніколі. Тымчасам няма ў беларусаў ніякіх арганізацыяў дзеля барацьбы з п'янствам і не вядзецца з ім ніякага змаганьня. Даўней змагалася з гэтай зморай наша духавенства, асабліва каталіцкае, а цяпер яно бадай выключна аддалося працы польскай палітыкі: закладаньню гурткоў S.M.P. (Stowarzyszenie Młodzieży Polskiej), а аб пляновым змаганьні з найбольшым духовым ворагам яго прыхаджан, з алькаголем, і ня думае, або думае надта мала.

„Людзі, адны больш, другія менш, адны радзей, другія часьцей ужываюць алькагольных напіткаў, тлумачачы гэта сабе карысьцяй алькаголю для здароўя, асабліва для апэтыту, патрэбай часам сагрэцца, а так-жа тым, што алькаголь быццам дае чалавеку магчымасьць павесяліцца й забыцца аб яго горы й аб шэрым, няпрыветным часта, штодзенным жыцьці.

„Але гэта ўсё няпраўда. Гэтак гавораць або людзі цёмныя, нясьведамыя справы, або людзі, якія ўжо маюць прывычку п'янства, якія адмовіць сабе алькаголю ўжо проста ня могуць. Як мы ўжо сказалі, алькаголь — гэта атрута й што ўжываньне гарэлкі больш як паўкялішка шкодзіць нашаму здароўю. А калі-ж алькаголь і пабуджае наш апэтыт і мы пад яго дзеяньнем больш ямо, як звычайна, дык гэтым так-жа шкодзім свайму здароўю, надмерна абцяжваючы свой арганізм лішняй ежай. Ашуквае нас так-жа алькаголь і цяплом сваім. Праўда, алькаголь, дастаючыся ў кроў нашу, прысьпяшае бег яе, расшырае нашы кроўныя жылы і выклікае большую, як звычайна, цеплату. Але цеплата гэта выходзіць на паверхню нашага цела, хутка гіне і цела наша хутка ахаладжаецца. Дзеля гэтага ў п'янога цеплата цела звычайна нізкая і ён хутка мерзьне. Абманная так-жа і гэта вясёласьць, якую нам прыносіць алькаголь. П'яны робіцца вясёлым затым, што алькаголь-атрута яго адурманьвае, прытупляе і зацямняе яго розум і толькі гэткім коштам дае нам забыцьцё і гэную вясёласьць. Працьвяразіўшыся-ж чалавек узноў бачыць тое-ж самае гаротнае сваё жыцьцё, а сябе ён бача іншым — ён астаецца з разьбітай і як-бы паменшанай і абакрадзенай душой. А калі да гэтага дадамо ўсе тыя выдаткі, якія пажырае алькаголь і ўсе тыя праступныя, нягодныя, часта проста агідлыя чыны, якіх чалавек дапускаецца, затруўшыся і адурманіўшыся алькаголем

і калі возьмем пад увагу ўсе тыя няшчасьці асабістыя, сямейныя і грамадзкія, беспасрэднай прычынай якіх зьяўляецца той-жа алькаголь, дык будзем мець больш-менш цэлы абраз тых „дабрадзействаў,“ якія алькаголь гэты нам прыносіць.

„Тымчасам, ня гледзячы на ўсё сказанае і на так цяжкія варункі жыцьця, людзі алькаголю сабе не шкадуюць — Жыхары ўсей Польшчы, а ў іх ліку і беларусы, за 1931 год прапілі каля 800 мільёнаў залатовак. Выходзіць, што кожны грамадзянін Польшчы (800 мільёнаў падзеляныя на 32 мільёны насельніцтва) прапівае ў год 25 залатовак, а сям'я, дзе ёсьць прынамсі 4 асобы, прапівае (25×4) 100 залатовак у год. Колькі-ж за гэтыя грошы ў нас можна было-б залатаць дзюраў у гаспадарцы і колькі памагчы беларускаму выдавецтву кніжак, газэт, агулам беларускай народнай справе?!

„Даражыню гарэлкі скарбовай жыхары Польшчы, а ў іх ліку і беларусы, стараюцца абыходзіць самагонкай. За той-жа 1931 год ува ўсей Польшчы выкрыта 1232 тайных браваркоў самагону, а за першую чверць мінулага 1932 г. такіх браваркоў выкрыта ўжо аж 2273! Беларусы, ведама, у гэтым „промысьле“ займаюць „пачэснае“ мейсца. Тымчасам „майстры“ ўжо сядзяць бяз хлеба і на вясну ня будуць мець чым абсеяцца. — А аб усей шкоднасьці гэтага «рамясла“ для жыцьця духовага народу — і не ўспамінаем!

„Канчаючы, заклікаем Беларусаў апамятацца, пачаць самую рашучую барацьбу з п'янствам і цьвёрдай нагой стаць на шлях цьвярозасьці. Памятаймо, што п'янства — найбольшы вораг наш — як адзінак і як народу. Мы добра знаем, што ніхто нам ня спрые, ніхто ня рупіцца аб дабро наша, дык самі працуйма над сабой, над цьвярозасьцяй сваей.“

Нам тут, адно астаецца да гэтага дадаць, што заклік да барацьбы з п'янствам перадусім павінна ўзяць пад увагу беларуская моладзь. Да нас гэта перадусім тасуецца. Моладзь беларуская іменна найбольш у нас ужывае гарэлкі і пасьля ад яе церпіць. Дык і змаганьне з гарэлкай павінна павясьці перш-найперш моладзь. Я—к.

# Uzdoŭž — popierak Biełarusi.

**Brasłaŭščyna.**

*Nasielniki i ich byt.*

Nasielniki Brasłaŭščyny, jak užo ŭspaminałasia ŭ papiarednim numary „Š. M.“, składajucca z biełarusaŭ, litoŭcaŭ, rasiejcaŭ, žydoŭ i tataraŭ. Biełarusy i litoŭcy — heta aŭtochtony Brasłaŭščyny—heta ŭ 90% miascovyja sialanie-ziemlaroby.

Žydy — heta nasielniki miastečak — handlary i ramieśniki, jakija kaliś asieli ŭ hetym paviecie. Jość niekalki viosak u bolšaści z žydoŭskim nasielnictvam, a navat i čysta žydoŭskija, jak Jajsy, Kisłaŭščyna, Bildziuhi, Prydrujsk, Dziaduški i inš. Nasielniki takich viosak zajmajucca pieradusim ziemlarobstvam, ale pobač z hetym — tak-ža handlarstvam i ramieśnictvam. Niekatoryja žydoŭskija siemji całkom addaŭšysia ziemlarobstvu i davoli ŭmieła haspadarać, ale pieravažnaja bolšaść imkniecca da handlu i ramiasła, bo „vaŭka zaŭsiody ciahnie ŭ les". — Siarod miascovaha nasielnictva kružać cełyja śmiachotnyja apaviadańni i anekdoty ab žydoch-ziemlarobach. Adnu z ich dziela charakterystyki ŭspomniu.

Letam, naranicy ŭ sieradu, vyjechaŭ Dziadušanski Berka ŭ pole arać. Ale ŭ sierady ŭ Brasłaŭji adbyvajucca kiermašy. Tuju sieradu vyniatkava čamuści Berka nie pajechaŭ na kirmaš, a kab nia stracić hety tarhovy dzień, jon pastanaviŭ jaho vykarystać aručy prydarožnuju nivu. Kožnaha prajaždžajučaha hetaj darohaj na kirmaš jon zatrymlivaŭ pytajučy: što viazieš pradavać? Kidaŭ płuh z kaniom u poŭnivy i bieh za kožnym praježdžym da darohi, kab patarhavać. Mieŭ jon z saboju miech, biaźmien i hrošy. I takim čynam, pokul ludzi pierajechali ŭ Brasłaŭje, Berka nakuplaŭ miech kurej i šerści.

Hetki ziemlarob-handlar žyd i poŭdzień letni nie marnuje: pokul koń papasyvajecca, Berka ŭ paŭdni chapaje miech i biaźmien pad pachu i idzie ŭ susiednija vioski skuplivać tavar. U praciahu paŭdnia jon patrapić syści z Dziadušak až u Ciacierki, Zajnova (viorst 4—5). — Hety prykład vielmi charakterny dla žydoŭ-ziemlarobaŭ: jany achvotna chapajucca handlu i ramiasła; a časta kolonisty žydoŭskija addajuć ziamlu ŭ arendu i sami jduć u miastečki, kab zaniacca pryrodžanym facham.

Treba skazać, što žydy ziemlaroby vielmi zhodna žyvuć, z ziemlarobami chryścijanami, choć časta ŭzajemna siabie ašukivajuć (kali nie sa złoj voli, to z pryvyčki dla žartaŭ). Kali Icka ašukaje Jakuba kuplajučy šerść, ci kurycu, to Jakub Kisłaŭski raptam stajecca „veterynaram": tajkom utknie špilku Josielevaj kazie ŭ chvost, a taja z bolu kidajecca jak byccam jaje režuć. Reč zrazumiełaja, što biez Jakuba — „veterynara" kaza nie pazdaravieje, za što Josiel musić „veterynara" pačastavać harełkaj.

Heta žartablivy abrazok sužyćcia biełarusaŭ-sialan z žydami-ziemlarobami. Ale ahułam ichnyja suadnosiny mižsaboj vielmi pryjaznyja. Vypadki asymilacyi žydoŭ i pierachodu na chryścijanstva vielmi redkija. Kali zdarajucca takija vypadki, dyk tolki na tle kachańnia i žanieńnia.

(d. b.)

*Jakub Brasłaŭski.*

## Dla našych małodšych.

### Z i m a.

*Vierš JAKUBA KOŁASA.*

Biełym śnieham zamiataje
Viecier čornyja pala;
Biełu vopratku uździavaje
Naša rodnaja ziamla.
Miahki śnieh lataje pucham
I kanca jamu niama,
I niasie siardzitym ducham,
Dzikim sivieram zima.
Začyniajcie ščylna chatu,
Kab nia dźmuli chałady,
Na vakno placiecie matu,
Kab nia kłaŭ maroz ślady.
Dastavajcie z vyšak sani —
Hajda ściežki pracirać
I pa biełym akijanie
Udoŭž i ŭpopierak hulać!
Dy kładziecie rukavicy —
Hdzie z marozam žartavać!
Rady biełaj my zimicy,
Rady z joju vajavać!
Hej, vy koni, hej małyja!
Što zasnuli? — viesialej!
Hej, u skočku, załatyja!
Varušeciesia žyviej!

## Dziciačy sadok.

Pa ŭsim kulturnym śviecie, baćki, dbajučy ab dabry svaich dziaciej, za maładych hadoŭ jašče pačynajuć ich vučyć. Vučać jany ich spačatku ŭ tak zvanych sadkoch dziciačych, abo pieradškollach. Voś-ža biełaruskija dzietki ŭ Zachodniaj Biełarusi, z pryčyny ciažkoha pałažeńnia, pazbaŭleny prosta mahčymaści mieć hetkaje pradškolle. Ale tam adnak, dzie da biełarusaŭ spraviadliviej adnosiacca praviačyja ŭlady, tam i biełarusy pakrysie pačynajuć sioje-toje zdabyvać. I tak jość

biełaruskija dziciačyja sadki ŭ Łatvii — ŭ m. Ryzie dva i Dźvinsku adzin, — a ciapier niadaŭna załožany byŭ biełaruski dziciačy sadok u Litvie — ŭ m. Koŭnie.

Adkryćcio biełaruskaha dziciačaha sadku ŭ Koŭnie, jaki załažyła Biełaruskaje Kulturna-Praśvietnaje Tavarystva, adbyłosia vielmi ŭračysta ŭ pamieškańni „Biełaruskeje Chatki". Pramaŭlała tam hramadzianka M. Jakaviuk ad Kulturnaha Tavarystva, a paśla kiraŭnička sadku M. Čerkas. Na zakančeńnie vystupali sami dzietki. Jany vielmi pryhoža deklamavali biełaruskija vieršy, piajali pieśni i nadta-ž pryhoža tancavali biełaruski narodny taniec „Lavonichu" i balet „Žyćcio babki". Usie hości z vystupleńniaŭ dziaciej byli vielmi zadavoleny i prasili niekatoryja rečy paŭtarać.

Kab jak chutčej i nam tut u Zach. Biełarusi dačakacca adkryćcia takich sadkoŭ.

*P. K.*

---

## Аб каплях расы.

Вось мы ў агародзе. Цудоўная раніца. Сонейка толькі што ўзыйшло: яго праменьні абліваюць залатым блескам палі: дрэвы й кветкі адбіваюцна жывым вагнём ад паверхні сажалкі і тысячамі колераў пераліваюцца ў каплях расы, якія зьвешываюцца, як дробныя брыльянты па лісткох ружы і вінаграду.

Цудоўныя гэтыя каплі расы! Скуль яны тут узяліся? Куды падзенуцца за хвіліну, калі сонца падымецца вышэй? Якая доля іх чакае? Якія дарогі яны будуць пераходзіць?

Мы ўжо ведаем, што існуюць тры рады целаў: целы цьвёрдыя, плыўкія і газавыя. З плыўкіх целаў найважнейшым зьяўляецца вада. Як без паветра, таксама без вады ані чалавек, ані жывёла, ані расьліна жыць ня можа: людзі і жывёлы паміраюць, а расьліны засыхаюць з смагі. Вада ўходзіць у склад амаль усей нашай ежы. Нават у нашым целе ёсьць шмат вады ў крыві, у мясе, у касьцях, у валасох.

Чалавек, які важыць 100 фунтаў, мае ў сваім целе 75 фунтаў вады.

Вада ня мае колеру і, калі яна чыстая, без усялякіх дамешак, тады яна ня мае ніякага смаку.

Ведаеце добра, што ўзімку, падчас марозаў, вада плыўкая зьмяняецца ў цьвёрдае цела, у лёд; наадварот, лёд ад цяпла растопліваецца ізноў у ваду.

Ведаем яшчэ трэці від вады — ваду лётную ці водную пару. Што вада існуець у відзе пары, пераконывае нас аб

гэтым шмат зьявішчаў. Наліваю на сподачак вады, стаўляю ў зацішным мейсцы, каб яе ніхто ня выліў ці ня выпіў і прыходжу праз некалькі дзён. Аказваецца, што вада нейдзе згінула са сподка. Што магло з ёю зрабіцца? А вось што: яна выпаравала, замянілася ў газ, які называецца вадзяной парай і ў такім відзе, як лягчэйшая, адляцела ў паветра. Тое самае адбываецца, калі высыхаюць мокрыя каменьні, калі сохнець вопратка або змочаная бялізна.

Зразумейма гэта дакладней.

Калі вада выпароўвае, гэта значыць, што яна распушчаецца, ці разыходзіцца ў паветры; пры гэтым, чым паветра цяплейшае, тым больш распушчае ў сабе вады і распушчае яе хутчэй; а чым халаднейшае, тым менш.

Калі паветра зьмяшчае ў сабе зашмат вадзяной пары, называем яго вільготным.

Калі вільготнае паветра астудзіцца, частка распушчанай у ім пары будзе змушана йзноў выдзяліцца ў відзе кapляў вады. Такія каплі вады, якія выступаюць пры пахалоджаньні вільготнага паветра на лістох, каменьнях і іншых прадметах, называем расой.

Каб спраўдзіць гэтае зьявішча, наліём у бутэльку вельмі сьцюдзёнай вады і ўнясём бутэльку ў цёплы пакой. Праз хвілінку ўбачым, што вонкавая паверхня бутэлькі пакрылася вільгацьцю, каплямі вады.

Скуль узяліся гэтыя капелькі?

Вось-жа, паветра ў пакоі зьмяшчае ў сабе крыху вадзяной пары. Пакуль яно даволі цёплае, пары гэтай ня бачым. Але калі мы ўнесьлі сьцюдзёную бутэльку, паветра, якое безпасярэдна акружае бутэльку, значна астудзіцца і ня можа ўжо ўтрымаць у сабе гэтулькі пары, колькі перад гэтым зьмяшчала яе ў сабе, будучы цяплейшай. Значыцца нічога дзіўнага, што частка гэтай пары выдзялілася ў відзе вадзяных кapляў і асела на бутэльцы.

Няхай цяпер, замест сьцюдзёнай бутэлькі, унясе хто ў пакой моцна астуджаны ліст, кветку або халодны камень, дык на ім таксама асядуць з паветра капелькі вады. У такі самы спосаб асядае раса ў часе сьцюдзёных начэй на шыбах пакояў, дзе ад дыханьня людзей зьбіраецца шмат пары.

**А. Л.**

(д. б.)

# „Voŭk, Źmitruk, kabyła i baran“.

(*Narodnaja kazka*).

Išoŭ voŭk z-pad Mira. Sustreŭ Źmitruka. Toj Źmitruk byŭ kraviec. Išoŭ jon z pałkaju, što daŭniej mierali. Voŭk kaža:

„Źmitruk, Źmitruk! Ja ciabie źjem!“

A Źmitruk adkazvaje:

— Źjasi, dyk źjasi! Ale pierad śmierciu daj ja tabie źmieraju kamizelku! —

Voŭk zhadziŭsia.

Źmitruk i pačaŭ jamu pałkaju pa bakoch mieryć. Mieryŭ, mieryŭ, pakul vaŭka čysta źbiŭ. Tady kaža: — Pačakaj-ža! Kamizelku ja źmieryŭ, ale jašče laž da hary, jašče panaznačyvaju, dzie huziki ŭšyvać! —

Voŭk jašče loh da hary, a Źmitruk jaho nastorč teju pałkaju čysta skałoŭ, što nie zachacieŭ i jeści voŭk Źmitruka.

Źmitruk astaŭsia žyvy i pajšoŭ sabie dalej.

A voŭk lažyć dy dumaje: „Hm! Nia źjeŭ, dyk nia źjeŭ! Ale našto mnie była heta kamizelka, dy jašče ŭ dva rady huziki? Ci ja pan? ci ja šlachcic?...“

I pajšoŭ vok dalej pamaleńku.

Idzie, dy jdzie. Až bačyć — chodzić kabyła. Voŭk i kaža: „Kabyła, kabyła! Ja ciabie źjem!“. A kabyła adkazvaje:

— Źjasi, dyk źjasi, ale našto ty budzieš mianie jeści? Ty voś lepš pačytaj u mianie pad kapytom hazetu! —

Voŭk pačaŭ hladzieć, a kabyła, jak lapnie jamu ŭ chrapu nahami, až voŭk adlacieŭsia i lažyć. A kabyła ŭciakła.

Lažyć voŭk dy dumaje:

„Nia źjeŭ, dyk nia źjeŭ! Ale našto jašče było mnie hazetu čytać? Ci ja hramaciej? ci ja vučyciel?...“

Ačomkaŭsia voŭk i pajšoŭ dalej. Idzie, dy jdzie. Sustreŭ barana dy kaža:

„Baran, baran! ja ciabie źjem!“ Baran adkazvaje:

— Našto ty mianie budzieš jeści? Ty voś lepš zaplušč vočy, adčyni huby, a ja tabie sam uskoču! —

Sieŭ voŭk, zapluščyŭ vočy i adčyniŭ huby.

Baran jak razahnaŭsia dy jak daŭ jamu rahami ŭ łabacinu, dyk voŭk samleŭ.

Baran uciok, a voŭk ačomkaŭsia, dyj kaža:

„Nia viedaju: ci ja jaho hłynuŭ, ci minuŭ?...“

Zapisaŭ

*Małady Dziadok.*

# Літэратурны аддзел.

## РОДНАМУ КРАЮ.

Ой занясло цябе хмарамі сьнежнымі,
Краю мой родны, старонка убогая,
. . . . . . . . . . . . . . .
Доля твая не вясёлая, срогая!
У хаце-Эўропе была ты калыскаю
Дзесяць вякоў для народу спакойнага,
Мала цікавілась ведаю, кніжкаю
І ня прыдбала ў ёй месца дастойнага.
Ліры прыгожае не змастаколіла,
Хоць ты зрадзіла Купалу і Коласа;
Музаў сямёх[1]) ты аднак не здаволіла,
Ў высшым мастацтве ня маеш ты голаса.
Родна старонка! Як дрэва скрыпучае,
Ты пратрывала ад „часу вандроўнага“,
Не праявіла ты волі кіпучае
Для узурпатара, сілай няроўнага.
Не Гарыбальдзяму[2]) маткай ты роднаю,
Тэльля,[3]) Паляцкага[4]) так-жа ня няньчыла
Ў часе мяцеліцаў, сьцюжай халоднаю
Помачы ў іх не прасіла, ня кленчыла.
Перад парогам свабоды бадзяешся
Быццам жабрачка, бяз права і сьмеласьці;
Сёстрам-суседкам ты пакараешся
Абараніцца ня маеш умеласьці.
К „барыну“ к „пану“, як najміт наймаешся
Маючы мову, народ свой, гісторыю,
Быццам расою, сьлязьмі ты ўмываешся,
Ніхто не пацешыць хірлявую, хворую.
Вольны прагрэс твой, культуру свабодную
Цяжка зьнівэчылі,
. . . . . . . . . . . , . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Дык зянясло цябе сьнежнымі ўюгамі,
Горбамі белымі, злымі завеямі,
Дзеці твае парабіліся слугамі,
Маткі прыблудаў чужацкіх свацеямі
Дзеці твае роднай мовы чураюцца
І называюць няўдалай, мужыцкаю,
Праз цемнату вынарадаўляюцца

---

1) 7 музаў мастацтва ў Грэкаў.
2) Змагар Італьянскі.
3) Здабыў свабоду для Швайцараў.
4) Змагар Чэскі.

Іншых засільваюць кроўю крывіцкаю.
Ой, замяло цябе сьнегам, мяцеліцай,
Ў родных аселіцах мова ня родная,
Сьнег на аколіцах сьцеліцца, беліцца,
Вые на быт твой ваўчыца галодная.
Гэй, вы сыны! Свае долі разбойнікі!
Вы, кавалі дабрабыту супольнага,
Маткі ідучай на гібель канвойнікі,
Стойце! Дадайце паветра ёй вольнага!

**Я. Вількоўшчык.**

## БЕЛАРУСЬ!

Хто сяньня бяз болі Цябе спамінае,
І сяньняшня, любіць Тваё палажэньне—
Хай ласкі ніколі Тваей не зазнае,
Хаця-бы прасіў ён калі прабачэньня.

Бо гэткі аб заўтра ніколі ня дбае,
І сяньня, на‘т здраду Табе мо‘ гатуе.
Ён жаласьці ў сэрцы ніякай ня мае.
Ня чуе як злыдзень Цябе ўсьцяж катуе.

**Казлоўшчык.**

* * *

Па белым сьнегу сонка лічыць
Касуль іскрыстых валасы.
У сэрцы хмельна кроў крынічыць
Вясёлкі ўспыхнуўшай красы

А дзень—і ясны і прыгожы,
Так многа сонца на сьнягу
Нашто укрыты сум трывожыць
Калі краса п‘яніць душу.

...Хоць знаю...
Сонка ўжо ўсхадзіла
Над сьнежнаю зямлёй ня раз.
Ня раз разсыпаўшы іскрыла
І брыліянты і альмаз.

Хоць гэта ўжо даўно ня нова:
І сьнег, і сонца, і зямля.
Мне трэба песьня—песьні-ж словы
І весялковая краса.

Дык хай-жа хмельна кроў крынічыць
І песьнь складаецца сама.
На сум цяпер у нас ня звычай —
У нас, прачнуўшыхся ад сна.

**М. Машара.**

## БАРАВІК І МУХАМОР.
(Байка).

У лясочку, між кустамі,
Дзе для сонца быў прастор,
Падняліся над імхамі
Баравік і мухамор.
Толькі ўбачылісь з сабою,
Мухамор стаў рагатаць:
«Хіба», кажа: ты сабою
Хочаш сьвет перапужаць?
І каму ў такой аздобе
Ты патрэбны, мне скажы...
Ишчэ надуўся, жарт, асоба!
Фэ! сароміўся-б расьці!»
Ў гэты час пастух нарваўся,
Баравік у торбу ўзяў...
Мухамор расьці астаўся,
Потым згніў і так прапаў.

**Ўлад-Ініцкі.**

# Da nas pišuć.

## BAJKATUJUĆ.

**Zamošša kala Brasłaŭja.** U našaj staroncy ad „Stšelca“ i „Stovažyšenia Młodzieży Polskiej“ až roicca. Jak adna, tak i druhaja hetyja arhanizacyi starajucca jak najbolš pryciahnuć da siabie biełaruskaje moładzi i biazumoŭna — spolonizavać. Dziela hetaha ładziać jany roznyja viečaryny, pradstaŭleńni i „śviatkavańni“, staviačy polskija p‘jesy. Moładź naša adnak užo trochi śviedamaja i imkniecca da taho, kab samoj ładzić biełaruskija pradstaŭleńni. Adnak na heta pakulšto nie chapaje «sił»... Zatoje nia choča jana chadzić na pradstaŭleńni polskija, farmalna bajkatujučy ich. Mnie zdajecca, što takoje stanovišča vielmi dobraje i jaho pavinna zaniać usia biełaruskaja moładź. Hetym užo my pakažam svaju nacyjanalnuju śviedamaść i stojkaść i moža navat zmusim adpaviednyja čyńniki ličycca z nami.

*I. P.*

## VYSTUPAJCIE Z „STOVAŽYŠENIA MŁODZIEŽY POLSKIEJ“.

**v. Łakotki,** Brasłaŭski pav. Hod tamu nazad, budučy łatvaviernym, pasłuchaŭ ja namovaŭ polskich ksiandzoŭskich padchlebnikaŭ i zapisaŭsia ŭ „Stovažyšenie Młodzieży Polskiej“. Dumaŭ ja, što heta arhanizacyja sapraŭdy maje za metu

kulturnuju pracu na vioscy i ŭzhadavańnie moładzi na asnovach chryścijanskich. Adnak, kali pachadziŭ ja trochi ŭ ichniaje „Ognisko“, dyk praŭda pačała mnie trochi vyjaśniacca ŭ hałavie i ja pabačyŭ, što chryścijanskija lozunhi, jakimi operuje „Stovažyšenie Młodzieży Polskiej“, heta tolki prykryŭka, pad jakoj viadziecca rabota zusim supiarečnaja z navukaj chryścijanskaj, — a imienna — vynaradaŭlańnie. U „Stovažyšeniu Młodzieży Polskiej“ ksiandzy-palaki, pry pomačy roznych prybłudaŭ-padpankaŭ, pryciahvajučy da siabie biełaruskuju moładź, starajucca pamaleńku pryvučyć jaje da polskaści, a zabić usio biełaruskaje, jak movu, abyčai i h. d., a hetym samym spolonizavać.

Voś-ža pabačyŭšy hetuju zhubnuju dla Biełarusaŭ pracu „Stovažyšenia“, ja vystupiŭ z jaho i zaklikaju ŭsich svaich maładych zbłudziŭšych bratoŭ-Biełarusaŭ zrabić heta samaje. Heta arhanizacyja nie dla nas, tam našaj nahi nie pavinna być.

Viedaju ja tak-ža, što vystupić z hetaj arhanizacyi nia lohka, bo jak tolki začnieš rušycca, dyk nia tolki pačynajuć brachać ksiandzoŭskija sabački, ale jašče i ksiondz z ambony pierajedzie dy nazavie balšavikom. Na heta adnak nia varta źviartać uvahi, a śmieła i demanstracyjna zajavić svajo vystupleńnie. Davoli ciahacca pa čužych kramkach, treba svoj biełaruski dom budavać. Zbudujem-ža jaho, zakładajučy biełaruskija arhanizacyi i pracujučy pad bieła-čyrvona-biełym ściaham.

*Vaš brat Biełarus.*

# На праўдзівы шлях!

**„Школьныя працы“** №№ 1—14. 1926—1930, выданы вучнёўскай моладзьдзю Дзьвінскай Беларускай Гімназіі у Латвіі. На першы ўзгляд — гэта скромны журналік, адбіваны на шапірографе, аб якім у Заходняй Беларусі хіба ніхто ня ведаў (нават вучнёўская моладзь Беларускіх Гімназіяў). Затое-ж зьмест яго які багаты і сымпатычны! З кожнага вершыка, артыкуліка там вее праўдзівым беларускім нацыянальным духам. У іх відаць моладзь беларуская ў Латвіі, яе душа і імкненьні, як у люстры. Відаць, як умела кіраваў і ўзгадоўваў беларускую гімназіяльную моладзь яе быўшы дырэктар П. Сахараў, многалетні і разумны пэдагог і ахвярны працаўнік на ніве беларускай культуры. Яго ахвярнасьць, безінтэрэсоўнасьць для беларускай нацыянальнай справы ўдзялілася ягоным выхаванкам. Ня ёсьць гэта пустая пахвала — гэта ёсьць некалькі слоў шчырых, праўдзівых аб вялікім пэдагогу, аб вялікім беларускім заслужаным грамадзяніне ў Латвіі.

Прачытаўшы „Школьныя працы“, журнал, які рэдагаваў грам. П. Сахараў, пераканаемся, што няма там мейсца на грызьню партыйную і асабістую: там вучнёўская моладзь не крытыкуе і ня судзіць старэйшага грамадзянства, што мы бачым у сумнай памяці віленскім „Вучнёўскім звоне.“ Сахараў не гадаваў „скарыньчыкаў“, а гадаваў непрымірымых байцоў за беларускую справу.

У гэтакім, а не ў іншым духу трэба ўзгадовываць моладзь.

«Школьныя Працы“, побач з іншымі часопісямі, якія хоць нерэгулярна выходзілі--рабілі вялікую работу ня толькі сярод моладзі гімназіяльнай, але і сярод беларускай моладзі вясковай у Латвіі, як сяньня робіць гэта ў Заходняй Беларусі часопісь „Шлях Моладзі.“ „Школьныя Працы“ давалі шмат месца матэр'ялам этнографічным; ёсьць пару нумароў цалком прысьвечаных народнай беларускай творчасьці, зьбіранай сярод насельніцтва беларускага ў Латвіі. А галоўным матэр'ялам успомненай часопісі ёсьць новыя літэратурныя пробы мясцовых маладых пісьменьнікаў, артыкулы узгадаваўчага зьместу і інш...

Кажу, што гэтая часопісь рабіла вялікую работу сярод моладзі, аб чым можна пераканацца на мейсцы.

З тымбольшым сумам трэба адцеміць, што гэтая часопісь перастала ўжо выходзіць. Апошні нумар, прысьвячаны юбілею Я. Купалы, вышаў у 1930 годзе як нумар 14-ты. Сягоньня між пэдагогамі Дзьвінскай беларускай гімназіі грам. Сахарава, на жаль, ужо няма. Але верма, што знайдзецца хтось з пэдагогаў гэтай Гімназіі, хто будзе далей вясьці працу распачатую грам. П. Сахаравым. Моладзь гэты абавязак павінна прысьпяшыць, бо і Купала кажа:

«На цябе, наша моладзь, надзея
Нашай сумнай зямлі;
Твой арліны палёт цьмы разьвее
І запаліць веквечны вагні.“

Прыдзьвінскі.

## АД АДМІНІСТРАЦЫІ.

**Адміністрацыя „Шляху Моладзі“ паведамляе, што 1. ўсім тым, хто прыслаў 2 зл. падпіскі на „Шлях Моладзі“ і 1 зл. на перасылку кніжак-прэміі — прэмія гэта выслана. 2. срок прысылкі грашэй на „Шлях Мол.“, з правам адтрыманьня прэміі, прадоўжаны да 1-га красавіка с. г.; 3. высылка „Шляху Моладзі“ усім тым, хто не аплаціў падпіскі, ад наступнага нумару будзе ўстрымана.—Просім гэта прыняць пад увагу.**

**АДМ. „ШЛЯХУ МОЛАДЗІ“**

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

**Суд над Т.Б.Ш.** 1 і 3 лютага с. г. ў Віленскім Акружным Судзе разглядалася справа сяброў Галоўнае Управы Таварыства Беларускае Школы: — грам. грам. Ф. Стэцкевіча, Р. Шырмы і М. Пяткевіча, абвінавачаных у супрацоўніцтве з камуністамі і дзеячоў на грунце Т. Б. Ш.: — грам. грам. Цэраха, Саковіча і Скуркі, абвінавачаных за камуністычную дзейнасьць. Суд, разглядзеўшы справу, прызнаў закіды акту абвінавачаньня ў адносінах да Стэцкевіча, Шырмы і Пяткевіча няслушнымі і апраўдаў іх; а закіды Цэраху, Саковічу і Скурцы прызнаў даказанымі і засудзіў: Цэраха і Саковіча — па 3 гады вастрогу, а Скурку — на 2 гады. Усе падсудныя, за выняткам Скуркі, гаварылі ў судзе пабеларуску.

**Лекцыя ў Т-ве Беларусаведы.** —19-га лютага с.г. у Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы пры У.С.Б. адбылася лекцыя грам. М. Пяткевіча на тэму: „Што зроблена і што трэба зрабіць у галіне досьледаў над беларускай этнографіяй?“

**Спэктакль-вечарына.** Гістарычна-літэратурны Гурток Вучняў Бел. філіі Дзярж. Гімназіі ім. Ю. Славацкага ў Вільні ладзіў у суботу 11-га лютага с. г. спэктакль-вечарыну. Адыграна была п'еса К. Сваяка „Янка Канцавы“. — На будучыню пажадана, каб арганізатары больш увагі зьвярнулі на ігру артыстаў-аматараў, бо на гэты раз яна была слабаватая.

**Арышты сярод беларускіх вучняў у Наваградку.** — У пачатку сёл. году. сярод вучняў і вучаніц Наваградзкай беларускай гімназіі былі праведзены рэвізіі і арышты. Арыштавана 9 асоб, пазьней аднак 4 х з іх звольнена.

**Этнографічны канцэрт.** Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры У.С.Б. арганізуе на дзень 18 сакавіка с. г. у унівэрсытэцкай залі Сьнядэцкіх этнографічны Канцэрт, на праграму якога складаецца: 1 лекцыя грам. Р. Шырмы на тэму: „Беларуская народная песьня“ і 2. выступленьні Беларускага хору пад кіраўніцтвам таго-ж грам. Р. Шырмы.

**Б.С.С.Р.** — Ізноў чыстка. Як падаюць газэты ў Беларускай Акадэміі Навук у Менску адбылася нядаўна чыстка, у выніку якой, звольнена прафэсароў: Р. Міхневіча

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНА ЯКАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і М. Пяцюкевіч.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк.** **Выдавец Янка Багдановіч.**

і П. Цімахоўскага, а так жа 12 студэнтаў „за нацыянальны ўхіл“. Звольненым выданы „воўчыя білеты“, якія бадай што пазбаўляюць сваіх уласьнікаў усялякіх правоў.

Купала і Колас. Як падаюць „Известия“, найвялікшыя беларускія паэты Янка Купала і Якуб Колас выбраны ў прэзыдыюм Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў.

**Беларусы ў Літве.** Адкрыцьцё Бел. Нар. Унівэрсытэту. — 22 студзеня с. г. ў Коўне адбылося ўрачыстае адкрыцьцё Беларускага Народнага Унівэрсытэту ў Літве. На гэтай вялікай урачыстасьці, якая адбылася ў „Беларускай Хатцы“, былі прысутныя прадстаўнікі літоўскага грамадзянства, а так-жа і прадстаўнікі Беларусаў з Латвіі.

Сход студэнтаў. — 12-га лютага ў Коўне ў памешканьні „Беларускай Хаткі“ адбыўся агульны сход беларускіх студэнтаў Літоўскага Унівэрсытэту Вітаўта Вялікага, згуртованых у „Аб'яднаньні Студэнтаў Беларусаў.“ На сходзе выбрана новы ўрад у наступным складзе: Д. Рудзь — старшыня, Г. Чэркс — віцэ старшыня, А. Ус — скарбнік і А. Зайгліш— сэкрэтар. У Рэв. Камісію выбраны: студ Рамэйко, Верабей і Малаток.

Новы Аддзел Беларускага Культурна-Прасьветнага Т-ва адчынены ў м. Гельба Вілкамірскаго вокругу.

Беларускія прадстаўленьні адбыліся 1.І.33 у Багуславішках Вілкамірскага пав. 12.І.33 ў Шырвінтах. Ставілі „Зьбянтэжанага Саўку“ і „Пасланца“. Пасьля прадстаўленьня былі дэклямацыі і выступаў беларускі хор. Беларуская трупа ў абодвух гэтых мяйсцох была вітана дужа радасна, пры тым Літоўцы падчырківалі свае добрыя адносіны да беларусаў.


# „АВАДЗЕНЬ“

адзіны беларускі ілюстраваны гумарыстычны двутыднёвік выйшаў ужо з друку і прадаецца.

**ЦАНА АДНАГО НУМАРУ 25 ГР.**

**Падпіска** (з дастаўкай да хаты) каштуе:
- на год 5 зл.
- „ паўгода 2.50 зл.
- „ 3 месяцы 1.25 зл.

Заграніцу ўдвая даражэй.

Гадавыя падпішчыкі атрымаюць прэмію.

Пробных нумароў дарма не высылаецца.

**Адрэс Рэдакцыі: Wilno, Zamkova 17 m. 7.**

0717707
041661

Przesyłka opłacona ryczałtem.


# ПРЭМІЯ

## для падпішчыкаў „Шляху Моладзі“

### на 1933 г.

Рэдакцыйная Калегія „Шляху Моладзі“, знаючы сучаснае цяжкае палажэньне нашае вёскі і цягу моладзі да кніжак, пастанавіла даць магчымасьць ёй мець хоць некалькі беларускіх кніжак. І восьжа сабралі мы ад беларускіх выдавецтваў пэўную колькасьць кніжак, сьпіс якіх падаём ніжэй. Гэтыя кніжкі вышлем бясплатна, як прэмію, кожнаму, хто толькі прышле да 1.IV.33 ПАДПІСКУ НА „ШЛЯХ МОЛАДЗІ“ НА 1933 ГОД У СУМЕ 2 ЗЛ. І НА ПЕРАСЫЛКУ КНІЖАК (ПРЭМІІ) 1 ЗЛ

УСЯГО РАЗАМ **3** ЗЛОТЫ.

**СЬПІС КНІЖАК,**

якія ўваходзяць у прэмію для падпішчыкаў „Ш. М.“

1. Hrynkievič St. — Arlanio. Raskazik. . . 0,30
2. Hałubianka-Bučynskaja M. — Alkahol i baraćba z im. . . . . . . . . . 0,20
3. Галубянка-Бучынская М. др. — Што такое сухоты і як з імі змагацца? . . . 0,10
4. Kazłoŭščyk Uł. — Ab fizyčnym vychavańni ŭ Biełarusaŭ. . . . . . . . . 1,00
5. „ Fizyčnaje vychavańnie hramadzianstva. 0,60
6. Колас Я. — Сымон Музыка. Паэма. . . 2,50
7. Sadok dla našych dzietak. . . . . . . 0,35
8. Віппэр Р. — Падручнік Новай Гісторыі. 1,50
9. „ Падручнік Навейшай Гісторыі. 2,00
10. Ваг. — Палітычныя і грамадзкія кірункі ў мінуўшчыне і сучаснасьці. . . 0,50

**Грамадзяне, карыстайце з аказіі!**

Грошы просім слаць на адрэс:
**Administracyja „Šlachu Moładzi“**
**VILNIA (Wilno), Zavalnaja 6—10.**


BIBLIOTEKA w Wilnie im. Wróblewskich